МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ’ЯДНАННЕ “ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ “БАЦЬКАЎШЧЫНА”

№9 (137)
верасень 2013

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## У НУМАРЫ:



ЮБІЛЕЙ

## КАМПАНІЯ “БУДЗЬМА!” АДЗНАЧЫЛА ПЕРШЫ ЮБІЛЕЙ

1 кастрычніка культурніцкая кампанія “Будзьма беларусамі!” адзначыла сваё пяцігоддзе. За пяць гадоў дзясяткі арганізацый, кампаній ды ініцыятываў падтрымалі ідэю аб’яднання з мэтай папулярызацыі беларускай культуры і далучыліся да кампаніі, каб прасоўваць трэнд беларускага — як сучаснага і перспектыўнага. Сярод буйных праектаў — штогадовы фестываль беларускамоўнай рэкламы і камунікацыі “Аднак!”, камунікацыйныя праграмы “Краіна Цмокаў” і “Культура паляпшае жыццё”, музычны праект “Тузін. Перазагрузка” і аднайменная анімацыя “Будзьма беларусамі!”.

ПРАЕКТЫ КАМПАНІІ «БУДЗЬМА БЕЛАРУСАМІ!»



«ТУЗІН.ПЕРАЗАГРУЗКА»


«БУДЗЬМА! ТУЗІН.ПЕРАЗАГРУЗКА 2»


BUDZMA THE BEST ROCK (ДВАЙНЫ)



BUDZMA THE BEST FOLK


НАЛЕПКІ НА КЛАВІЯТУРУ «БУДЗЬМА З МОВАЙ!»


СУВЕНІРНЫЯ ЦІШОТКІ


... І ТОРБЫ


НАБОРЫ ПАШТОВАК

За гэты час супольнымі намаганнямі літаратурныя і музычныя сустрэчы, фэсты і канцэрты, вандроўкі і лекцыі, кірмашы праектаў і ток-шоу, што ладзяцца па ўсёй краіне, ахапілі 220 населеных пунктаў, а іх агульная колькасць перавысіла 4000. Менавіта таму гэты дзень — цудоўная нагода павіншаваць усіх, хто шануе, любіць і папулярызуе беларускую культуру.

Каментуюць каардынатары кампаніі Алена Макоўская і Ніна Шыдлоўская.

Алена Макоўская: “5 гадоў кампаніі — добрая нагода перш за ўсё сказаць дзякуй усім, хто паверыў у наш запал і працягвае супольную працу. Таксама дзякуй усім, хто за гэты час далучыўся да нас, падтрымаў кампанію канкрэтнымі дзеяннямі, узбагаціў ідэямі, сваім талентам. Усім, хто прыняў беларускія каштоўнасці і далей рэтранслюе іх праз свой гурт, медыі, творчую суполку, рэкламную агенцыю ці аддзел культуры. Гэты шлях не быў простым і лёгкім: увесь час трэба вынаходзіць нешта адметнае, бо сітуацыя ў Беларусі ў пэўным сэнсе ўнікальная, таму і аналагаў нашай кампаніі, каб было ў каго пераняць досвед, мы не знайшлі. І мы запрашаем усіх, хто яшчэ не з намі, далучацца да кампаніі, каб разам папулярызаваць нашую культуру праз сучасныя крэатыўныя сродкі. Станоўчым фактарам ёсць падвышэнне зацікаўленасці беларусаў сваёй культурай, але наша мэта — спрыяць таму, каб беларушчына з трэнду канчаткова стала асновай дзяржаўнай палітыкі”.

За час свайго існавання кампанія пачала трывала асацыявацца з паняткам “якасная беларуская культура”. У найбліжэйшай перспектыве — больш шчыльная праца ў рэгіёнах, стварэнне рэзанансных камунікацыйных праграм,



## ЛЯВОН ТАРАСЕВІЧ СТАЎ ЛАЎРЭАТАМ ПРЭМІІ НОРВІДА



Статуэтку і чэк на 20 тысяч злотых (6 380 даляраў) польскі мастак беларускага паходжання атрымаў падчас урачыстасці ў Каралеўскім замку ў Варшаве.

Лявон Тарасевіч стаў лаўрэатам Прэміі імя Цыпрыяна Норвіда ў намінацыі "Выяўленчае мастацтва". Узнагароду мастак здабыў за выставу ў галерэі "Spokojna", а таксама адкрытай галерэі ў Доме Палоніі ў Варшаве.

Польскі мастак беларускага паходжання (нарадзіўся ў 1957 г. у в. Валілы на Падляшшы) Лявон Тарасевіч вучыўся ў варшаўскай Акадэміі мастацтваў. Удзельнічаў у шэрагу выставаў у Польшчы і за мяжой. Прадстаўляў Польшчу на 49-ым Біенале мастацтва ў Венецыі.

Уручэнне Прэміі імя Цыпрыяна Норвіда адбылося ў 192-ю гадавіну з дня нараджэння класіка польскай літаратуры. Узнагароды прысуджаюцца ў намінацыях: літаратура, музыка, тэатр, выяўленчае мастацтва.

*"Наша Ніва"*

***Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" шчыра віншуе шаноўнага спадара Лявона з заслужанай узнагародай і зычыць далейшых поспехаў у творчасці, нязгаснага натхнення і радасці!***

## АЛІНА ВАЎРАНЮК УЗНАГАРОДЖАНАЯ "СРЭБНЫМ КРЫЖАМ ЗАСЛУГІ"



У межах фестывалю "Іншае вымярэнне" ў клубе Фама быў паказаны спектакль аб'яднання на карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову "АБ-БА" — "Ой, даўно-даўно…" Беларускія гісторыі з Падляшша".

У час мерапрыемства ўзнагароду "Срэбны крыж заслугі" ад прэзідэнта Польшчы атрымала намесніца старшыні аб'яднання "АБ-БА" Аліна Ваўранюк.

"Узнагарода вельмі цешыць. Я вельмі ўсхваляваная, і лічу, што гэтая ўзнагарода не толькі для мяне, а для нашага ўсяго аб'яднання "АБ-БА". Бо сама задума, каб уручыць гэтую ўзнагароду, выйшла ад Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі. Таму гэта вельмі цешыць і вельмі радуе".

Галоўная мэта аб'яднання "АБ-БА" — дапамога дзецям і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову, а таксама дапамога бацькам і настаўнікам.

*Паводле "Беларускага Радыё Рацыя"*

***Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" шчыра віншуе спадарыню Аліну з гэтай высокай узнагародай! Зычым натхнення і плёну ў далейшай працы, і няхай яна заўсёды прыносіць Вам задавальненне і радасць!***

## АНІМАЦЫЯ "БУДЗЬМА БЕЛАРУСАМІ!" - ЦЯПЕР І ПА-ЧЭШСКУ!



Анімацыйны фільм "Будзьма беларусамі!" цяпер даступны і па-чэшску. Аўтары ўпэўненыя, што анімацыя стане добрай падтрымкай міжкультурных зносінаў паміж Беларуссю і Чэхіяй, дзе не так даўно беларусы афіцыйна атрымалі статус нацыянальнай меншасці. Паглядзець мультфільм можна на партале budzma.org. Пераклад тэксту быў зроблены Максімам Бяляўскім і адрэдагаваны Веранікай Наватнюк. Гэта ўжо пятая моўная адаптацыя мультфільма (дагэтуль пабачылі свет руская, польская, англійская і шведская версіі). Такім чынам, Францыск Скарына, праўда, віртуальны, зноў завітае ў Прагу, каб расказаць болей пра свой народ па-чэшску.

*Паводле budzma.org*

## КАМПАНІЯ "БУДЗЬМА!" АДЗНАЧЫЛА ПЕРШЫ ЮБІЛЕЙ

*Працяг. Пачатак на с.1*

актуальных для беларускага грамадства.

Ніна Шыдлоўская: "Праведзеныя ва ўсіх абласных цэнтрах дыскусійныя мерапрыемствы, скіраваныя на абмеркаванне актуальных праблемаў культурнага асяроддзя, прадэманстравалі, што ёсць шмат неабыякавых людзей, гатовых аддаць свой час і энергію, каб зрабіць жыццё роднага горада ці мястэчка больш цікавым і разнастайным. Натхнёныя гэтым, мы абвясцілі "Кірмаш праектаў", каб кожная вартая ініцыятыва магла знайсці сабе аднадумцаў і паплечнікаў, больш за тое, працуем над стварэннем банка ідэй, каб паказаць жывыя прыклады тым, хто хоча палепшыць жыццё свайго рэгіёна. Адна з задач кампаніі — не толькі дапамагаць ці самім рэалізоўваць цікавыя мерапрыемствы, але і натхняць іншых на актыўную дзейнасць, якая б дапамагала паляпшаць культурніцкі фон краіны".

Грамадская культурніцкая кампанія "Будзьма беларусамі!" пачалася 1 кастрычніка 2008 года. Кампанія спрые кансалідацыі беларускага грамадства праз узмацненне нацыянальнай ідэнтычнасці. Каардынатар кампаніі — Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўчышчына". Сярод найбольш актыўных удзельнікаў кампаніі ад НДА — Саюз беларускіх пісьменнікаў, Таварыства беларускай мовы, Беларускае добраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры ды шмат іншых арганізацый ды ініцыятываў.

Унікальная беларуская сітуацыя вымагае новых вынаходніцтваў, цікавых канцэптаў і пазітыўна шалёных культурніцкіх праектаў. Мы запрашаем усіх, хто яшчэ не з намі, далучацца, прыходзіць са сваімі ідэямі і рэалізоўваць іх разам на карысць беларускай культуры. Да кампаніі можна далучыцца як персанальна, так і калектыўна. Звяртайцеся!

*budzma.org*

## АБВЕСТКА

**24 кастрычніка** ўпершыню ў Маскве выступіць гурт **N.R.M.** (клуб China-Town).

Адрас: м. Кітай-горад, Лубянскі праезд 25/1.

Пачатак а 20.00.

Квіткі 400 рублёў.

Даведкі па тэлефоне ў Маскве +79268161016 (Сяргей).

*Арганізатары*

# ЖНІВЕНЬ У ТБК ЛІТВЫ

У жніўні ў ТБК Літвы адбылася традыцыйная сустрэча. Спярша быў зачытана віншавальны зварот віленчукам ад старшыні КХП-БНФ "Адраджэнне" Зянона Пазьняка з нагоды 25 жніўня — Дня здабыцця незалежнасці Беларусі.

Пра Валерыя Антонія Урублеўскага распавёў вядучы імпрэзы Вацлаў Гульбіновіч.

5 жніўня споўнілася 105 гадоў са дня смерці рэвалюцыйна-дэмакратычнага дзеяча, найбольш таленавітага паўстанцкага камандзіра 1863—1864 гг., генерала Парыжскай камуны Валера Урублеўскага.

Нарадзіўся ў мястэчку Жалудок, у Лідскім павеце 15 снежня 1836 года. У 1844 годзе разам з сям'ёй пераехаў жыць у Вільню. Скончыў Віленскі дваранскі інстытут-гімназію. З 1853 да 1856 года навучаўся ў інстытуце лесу і геадэзіі ў Пецярбургу. У часе студэнцтва пазнаёміўся з многімі рэвалюцыянерамі, пасябраваў з Кастусём Каліноўскім. Пасля заканчэння інстытута лесу працаваў памочнікам загадчыка, а пасля загадчыкам лясной школы ў Саколцы на Гарадзеншчыне. Разам з Кастусём Каліноўскім стварыў сетку падпольных рэвалюцыйных арганізацый, рыхтаваў насельніцтва да збройнага паўстання супроць царызму. З гэтай мэтай разам з К. Каліноўскім стаў выдаваць і распаўсюджваць газету "Мужыцкая праўда", чым заслужыў вельмі добрае стаўленне з боку сельскага насельніцтва Беларусі. Падчас паўстання кіраваў вайсковымі дзеяннямі, быў начальнікам генштаба паўстанцаў, пазней камандуючымі сіламі Гарадзенскага, Люблінскага і Падляшскага ваяводстваў. Быў моцна паранены. З дапамогай Баляславы Складоўскай (цёткі будучай вучонай Марыі Кюры-Складоўскай) быў перавезены на аўстрыйскі бок у Галіцыю. Далей з Галіцыі ў 1864 годзе выехаў у Францыю. На эміграцыі ў Францыі займаўся арганізацыяй дапамогі для ўцекачоў — удзельнікаў паўстання.

У 1871 годзе Валеры Урублеўскі — генерал Парыжскай камуны. Пасля паразы камунараў быў завочна прысуджаны да смерці. З прускім пашпартам выехаў у Лондан, дзе сябраваў з К. Марксам і Ф. Энгельсам. Быў членам Генеральнага Савета 1-га Інтэрнацыяналу. Пасля амністыі вярнуўся ў Францыю, жыў спачатку ў Ніцы, потым у Парыжы. Памёр 5 жніўня 1908 года. Пахаваны, так як і ён сам жадаў, каля сцяны камунараў на могілках Пер-Лашэз.

В. Урублеўскі ўшанаваны на радзіме. У Жалудку ў яго гонар названая вуліца, яго імя носіць школа пасёлка. Ёсць ідэя стварыць у Жалудку музей, прысвечаны памяці выдатнага земляка.

Пра Паўла Гуза і жыццё беларусаў Аўстраліі распавёў Хведар Нюнька.

У 2002 годзе на запрашэнне беларусаў Аўстраліі і пры фінансавай дапамозе сваяка — Юркі Нюнькі мне пашчасціла наведаць гэтую, нават па сённяшніх мерках, далёкую і цікавую краіну. Узровень жыцця там даволі высокі ў параўнанні з суседнімі краінамі.

Сёння хачу расказаць пра сустрэчы з вядомымі аўстралійскімі беларусамі і, у прыватнасці, з Паўлам Гузам. У гэтым месяцы спаўняецца 10 гадоў, як яго не стала.

Павал Гуз нарадзіўся 15 жніўня 1924 года ў вёсцы Дуброва Гомельскай вобласці ў сялянскай сям'і. З братам Аляксандрам прайшоў разам праз канцлагер Дахау. Пасля капітуляцыі Нямеччыны апынуўся ў лагеры ў Аўстрыі. Будучы вольным, займаўся арганізацыяй беларускага скаўцкага звязу. У 1949 годзе разам з жонкаю выехаў у Аўстралію. У часе паездкі пазнаёміўся з беларускім дзеячам Міхасём Зуем і далучыўся да Беларускай Незалежніцкай Партыі. У Мельбурне пачаў наладжваць беларускую грамадскую дзейнасць. Сакратар першага створанага ў Мельбурне Беларускага клуба. Пазней сябра ўправы і культурна-асветны рэферэнт Беларускага Аб'яднання ў Вікторыі. Спрычыніўся да выдання часопіса "Новае жыццё". Друкаваў нататкі і вершы пад псеўданімам Паўлюк Дуброўскі. Ад 1989 года — сакратар Федэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі. Дэлегат на пленумах Беларускай Цэнтральнай Рады (БЦР), спрыяў абранню Міхася Зуя Прэзідэнтам БЦР. Меў узнагароды БЦР. Доўгагадовы сакратар-скарбнік, а апошнія гады жыцця да 2003 года старшыня Беларускага цэнтральнага камітэта ў штаце Вікторыя.

1 жніўня споўнілася 70 гадоў з жудаснай трагедыі, калі каля Наваградка фашысты расстралялі 11 сясцёр-назарэтак, што ахвяравалі свае жыцці дзеля мірнага насельніцтва. Сёння цяжка сказаць, чаму захопнікі ўчынілі такі страшны акт вандалізму і чым маглі нашкодзіць безабаронныя манашкі акупантам. Але гэтае злачынства не засталося незаўважаным, і пра сясцёр не забыліся. Як сведчаць многія сведкі, сёстры перад смерцю сказалі, што няхай лепш іх расстраляюць, чым мірных жыхароў.

Каталіцкая царква высока ацаніла іх ахвяру. У 2000 годзе яны былі беатыфікаваныя. Іх парэшткі знаходзяцца ў фарным касцёле Наваградка. Многія тысячы людзей прыходзяць сюды, каб аддаць ім даніну павагі і паразважаць, чаму людзі здольныя на такія нечалавечыя злачынствы. Чаму сёння найлепшыя навукоўцы працуюць не над паляпшэннем дабрабыту, удасканальваннем бытавой тэхнікі, апаратуры па даследаванні касмічнай прасторы, а над удасканальваннем і вынаходніцтвам новых відаў зброі, якая знішчае чалавецтва. Чаму зноў, нягледзячы на гэтую і тысячы іншых трагедыяў, паўтараецца тое самае, калі да ўлады прыходзяць людзі, якія забываюцца на чалавечнасць, робяць з сябе багоў і нявечаць тысячы і тысячы чалавечых лёсаў. Таму важна памятаць гэтыя ахвяры, якія сведчаць, да чаго можа прывесці ўлада, сканцэнтраваная ў руках адной асобы.

Сёстры-назарэткі сталі прыкладам не толькі ахвярнага служэння людзям, але яшчэ тым голасам, які кажа кожнаму, хто пераступіў цераз парог чалавечнасці, адумацца, вярнуцца, бо такія трагедыі не павінны паўтарацца, таму што яны прыводзяць толькі да новых бесчалавечных ахвяраў і памнажэння зла ў гэтым свеце.

*Паводле Вацлава Гульбіновіча*

*Цалкам тэкст чытайце на zbsb.org*

## ВІНШАВАННІ

Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сябраў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", якія нарадзіліся ў кастрычніку: **Валерыя Герасімава, Сяргея Харэўскага, Антона Астаповіча, Алега Якшэвіча** (Беларусь), **Уладзіміра Астапука, Вольгу Галанаву, Валерыя Казакова** (Расія). Зычым добрага настрою, моцнага здароўя, плёну ў працы і ўсяго найлепшага!

16 кастрычніка юбілей у сябра Вялікай Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" Міколы Пачкаева. Шчыра віншуем юбіляра і зычым радасці і цяпла, добрага здароўя, дабрабыту і шчасця!

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*



# ВЯЧКА ЦЕЛЕШ: СКЛАСЦІ РАДАВОД — ЯК УЗВЕСЦІ АДНАМУ ПІРАМІДУ

На радаводным дрэве мастака Вячкі Целеша, якому 25 верасня споўнілася 75 гадоў, — больш за 500 атожылкаў. Так абсяжна даследаваўшы свае карані і крону, сённяшні жыхар Рыгі і кавалер латвійскага ордэна Трох Зорак лічыць, што без радаводу ні асобны чалавек, ні народ існаваць не могуць. А яшчэ ён перакананы: толькі мова і бел-чырвона-белы сцяг з'яднаюць беларусаў.

Напярэдадні юбілею "Радыё Свабода" сустрэлася з мастаком у "Вольнай студыі".

**"Радыё Свабода"**: Спадар Вячка, я трымаю ваш толькі што выдадзены ёмісты фаліянт "Адсюль наш род, тут мой прычал", дзе апісаны радавод Целешаў, што паходзяць з вашай радзімы — сучаснага пасёлка Краснасельскі, што на Ваўкавышчыне. Першае пытанне — як вы гэтаму далі рады?

**Вячка Целеш**: Складанне і апісанне радаводу — гэта сапраўды нялёгкая праца. Спачатку я думаў толькі пра сваіх дзядоў, прадзедаў. Але, пачаўшы даследаваць паходжанне свайго прозвішча, пабачыў, што сярод жыхароў Краснага Сяла ці не траціна Целешаў. Адразу падумалася: ці не з аднаго яны роду? І праўда, калі я знайшоў у архіве дакументы 1795 года, дзе перапісаныя ўся вёска і ўсе Целешы, то зразумеў — усе яны родзічы. Прызнаюся, сабраць звесткі пра сотні людзей — архіскладаная праца, асабліва ў Беларусі. Тут яшчэ, як выглядае, не даюць сябе забыць злавесныя цені мінулага. Пытаюся ў суродзіча, напрыклад, пра свайго дзеда і чую ў адказ: "А нашто табе? Можа, ты шпіён?" Людзі розныя сустракаліся. Але, дзякуй Богу, многа было і такіх, якія мяне разумелі, называлі летапісцам роду. Незабыўная сустрэча адбылася ў мяне ў Ваўкавыску — з Целешам, якому было 105 гадоў. Ён ужо не ўставаў з ложка, але калі я загаварыў да яго па-беларуску і расказаў пра свой клопат, ён жвава падхапіўся і пачаў са мной размаўляць — таксама па-беларуску. Быццам родная мова яму сілы дадала! Такія сустрэчы і такія людзі давалі мне імпульс да працы. Скласці радавод — як узвесці аднаму піраміду. Усе Целешы чакалі гэтай кніжкі!

**"РС"**: Вы ў сваёй кнізе аб'ядналі паўтысячы Целешаў з розных мясцінаў свету. Хтосьці, мабыць, да сустрэчы з вамі і не ведаў, адкуль яго карані. А што можа з'яднаць усіх беларусаў?

**ВЦ**: Вось я назіраю за латышамі. Я прыехаў у Латвію дзевятнаццацігадовым юнаком і з той пары там жыву. Латышоў яднае родная мова і родная зямля. У іх на кожным свяце гучаць песні, як правіла, патрыятычныя, а такіх песняў у іх сотні і сотні. Калі прыйдзеш у госці да латыша, то песні там спяваюць толькі латышскія, прычым старыя і малыя. Усе іх ведаюць. З дзіцячага садка ўсе ведаюць гімн Латвіі. У ім — не заклік да барацьбы, а малітва да Бога: "Божа, захавай Латвію, нашу зямлю". Таму латышоў ніякія палітыкі не могуць раз'яднаць. Я часам думаю: калі б беларусы і сёння былі пад бел-чырвона-белым сцягам, каб сёння, як і ў пачатку 90-х, усе начальнікі гаварылі па-беларуску, то народ таксама быў бы з'яднаны. Толькі родная мова і нацыянальныя сімвалы здольныя з'яднаць беларусаў.

**"РС"**: Нацыянальная сімволіка, дарэчы, нярэдка прысутнічае на вашых карцінах, нават на экслібрысах. А яшчэ ў вас вельмі цікавы партрэтны шэраг — Ларыса Геніюш, Зоська Верас, Кастусь Езавітаў... Нядаўна прачытаў у адной мемуарыстκі пра апошняга: пайшоў фальшывай дарогай. А для вас Езавітаў — герой?

**ВЦ**: Кастусь Езавітаў — гэта наша гісторыя. Яго імя звязанае з заснаваннем БНР. Гісторыю нельга таптаць і выкідаць на сметнік. Кепска тое, што многія людзі не ведаюць праўды пра Езавітава. Я чытаў яго лісты ў латвійскім архіве. У часы нямецкай акупацыі не было з яго боку ніякай палітыкі. Ён займаўся арганізацыяй беларускіх школаў, напрыклад, у Індры, дзе працавала беларуская гімназія. У Езавітава быў годны паплечнік у гэтай справе — Сяргей Сахараў, педагог. Яны нават у той неспрыяльны час думалі пра тое, як беларускіх дзяцей у Латвіі вучыць. І ўсё. А сёння нехта хоча прыпісаць Езавітаву супрацоўніцтва з немцамі, з КДБ ці яшчэ якія грахі. А трэба ўпомніць усё добрае, што ён зрабіў. Езавітаў быў геніяльны арганізатар. Ён столькі за сваё жыццё стварыў — таварыстваў, школаў, тэатраў!

**"РС"**: Ваша персаналія ёсць у 60-тамовай энцыклапедыі мастакоў усіх часоў і народаў. Гэта, мабыць, прыемна. А каго з сучасных беларускіх творцаў вы лічыце вартымі сусветнай славы?

**ВЦ**: Шчамялёва, Марачкіна... Такіх нямала. Помню, падчас аднаго з прыездаў на радзіму мяне пазнаёмілі на выставе з адным мастаком, які напісаў-наштампаваў сотні мадоннаў. Рафаэль адну намаляваў, і яго ведаюць ва ўсім свеце... Калі я з тым мастаком загаварыў па-беларуску, ён кінуўся ў спрэчку: "Мы интернационалисты, белорусский язык нам не нужен" і г.д. Калі ты беларус, то як ты можаш ад сваёй мовы адмаўляцца? Добрыя мастакі свайго ўсё ж трымаюцца — той жа Сяўрук ці Сергіевіч з Вільні, з якім я быў знаёмы і нават начаваў у яго майстэрні. Вось цудоўныя майстры, яны пакінулі па сабе выдатныя творы, але іх трэба рэкламаваць, каб пра іх ведалі за мяжой.

**"РС"**: Вы маеце найвышэйшую ўзнагароду Латвіі — ордэн Трох Зорак. А не крыўдна, што родная беларуская дзяржава вас аніяк не адзначыла?

**ВЦ**: Я не крыўдую. Па-першае, я жыву ў Латвіі, гэта мая дзяржава. Па-другое, для мяне незабыўны той час, 1992 год, калі Міністэрства культуры Беларусі прыгнала машыну ў Рыгу, куды мы загрузілі ледзь не ўсе мае творы. І тады мае выставы адбыліся ў Горадні і ў Нацыянальным мастацкім музеі ў Мінску, які закупіў мае працы. Але такіх, як я, нямала па-за межамі Беларусі. Усё ж трошкі крыўдна, што адносіны дзяржавы да нас, прадстаўнікоў дыяспары, сталі цяпер больш прахалодныя. Што да беларускіх узнагародаў, то я адну такую маю. За кнігу "Гарады Беларусі на старых паштоўках" я атрымаў прэмію імя Францішка Багушэвіча — ад беларускага ПЭН-цэнтра. Пасведчанне падпісанае Васілём Быкавым. Для мяне гэта самая ганаровая ўзнагарода.

**"РС"**: Апрача ўсяго вы — майстра экслібрыса. Вашыя кніжныя знакі — як візітныя карткі пісьменнікаў. Колькі вы іх зрабілі?

**ВЦ**: Больш за 70. Гэта таксама складаная праца, бо я працую пёркам і тушшу — кропачкамі, якіх трэба паставіць тысячы. У экслібрысе я стараюся паказаць сутнасць творцы. Памятаю, Уладзіміру Караткевічу рабіў. Ён быў вельмі задаволены, калі я яму на 50-годдзе зрабіў і прывёз у Мінск. Потым ён папрасіў дадрукаваць, і я яшчэ 200 адаслаў. Тады Пагоня была забароненая, а я яму зрабіў экслібрыс з Пагоняй. Гэта яго асабліва ўсцешыла. Мне на адзін экслібрыс трэба месяцы два, а нехта яго робіць за адзін вечар.

**"РС"**: Днямі з Польшчы прыйшла трывожная навіна — польскі ўрад мае намер істотна скараціць выдаткі на нацыянальныя меншасці. Беларусам на Беласточчыне прыйдзецца няпроста. А ці падтрымлівае Латвійская дзяржава беларусаў, якія там жывуць?

**ВЦ**: Адносіны да нацыянальных меншасцяў і ў Латвіі апошнім часам таксама складаныя. Напрыклад, ледзь не зачынілі беларускую школу ў Рызе, ледзь не закрылі беларускую паўгадзінную праграму на радыё, якая раз на месяц выходзіць. Але ж я ўваходжу ў кансультацыйную раду пры прэзідэнце, таму адстаяў. Прэзідэнт нават прыязджаў да нас у школу, якая і надалей існуе. Сёння, як і ў іншых краінах, у Латвіі трэба пісаць праекты. Вось мне трэба было правесці юбілейную выставу мастацкай суполкі "Маю гонар". Я ў Рыжскую думу напісаў праект, камісія разгледзела, выдаткавалі, хоць і невялікія, грошы, нам хапіла. На жаль, падтрымка зусім не тая, якая была раней.

*Паводле "Радыё Свабода"*

## БЕЛАРУСКУЮ МОВУ МОЖНА ВЫВУЧЫЦЬ У ТОКІА

Японка вывучыла беларускую мову за адзінаццаць месяцаў. Сіоры Кіясава прыехала з Токіа ў Мінск летась на стажыроўку ў БДУ. Яна вывучыла беларускую мову на такім узроўні, што свабодна гаворыць і нават чытае Рыгора Барадуліна. У Мінску дзяўчына, акрамя заняткаў у БДУ, наведвала бясплатныя гарадскія курсы беларускай мовы “Мова ці кава”. Пасля свайго вяртання ў Токіа яна разам з беларускай Таццянай Цагельнік, якая вучыцца ў Японіі, арганізавала там падобныя курсы.

Старшыня Таварыства беларускай мовы Алег Трусаў пракаментаваў намаганні японкі па вывучэнні беларускай мовы і выказаў шкадаванне, што далёка не ўсе беларусы нават маюць жаданне вывучаць родную мову.

У Японіі беларускую мову выкладае на курсах Таццяна Цагельнік, аднак ужо ў найбліжэйшы час за навучанне іх удзельнікаў абяцае ўзяцца яе японская сяброўка. Пакуль дзяўчаты не звярталіся ў пасольства Беларусі па дапамогу, аднак, паводле словаў японкі, там ведаюць пра яе ініцыятыву.

*“Беларускае Радыё Рацыя“*

## ЖЫВАЯ ГІСТОРЫЯ Ў СЕЦІВЕ

У Варшаве адбылася прэзентацыя інтэрнэт-праекта пад назвай “Беларускі архіў вуснай гісторыі”. Галоўнай мэтай праекта з'яўляецца спрыянне даследаванням і пераасэнсаванне савецкага перыяду гісторыі Беларусі, а таксама развіццю новых міждысцыплінарных даследаванняў праз збіранне і захаванне вусных успамінаў сведкаў гісторыі.

Паводле словаў гісторыка і каардынатара праекта Ірыны Кашталян, людзей да праекта прыцягнута вельмі шмат, і кожны жадаючы можа далучыцца да стварэння гісторыі. “Ідэя і праца пачалася ў 2011 годзе, калі ўтварылася асноўная каманда праекта, якая складаецца з розных спецыялістаў: гэта і гісторыкі, і праграмісты, і апаратары, і іншыя зацікаўленыя асобы ў папулярызацыі і прасоўванні гэтага кірунку“.

Праект “Беларускі архіў вуснай гісторыі” пачаты вясной 2011 года. Ён з'яўляецца сховішчам дакументаў па вуснай гісторыі Беларусі дваццатага стагоддзя. Праглядзець усю інфармацыю можна на старонцы інтэрнэт-праекта.

*“Беларускае Радыё Рацыя“*

## “У ЛОНДАНЕ РАЗМАЎЛЯЮЦЬ ПА-БЕЛАРУСКУ”

Давялося мне пабываць у гасцях у айца Аляксандра Надсана і айца Сяргея Стасевіча. Яны жывуць ды працуюць у Лондане ў грэка-каталіцкай місіі святога Кірылы Тураўскага, і дбаюць аб музеі ды бібліятэцы імя Францішка Скарыны.

Яшчэ з парога, прывітаўшыся, айцец Аляксандр запытаўся, адкуль я паходжу. Кажу, што з Іўя, недалёка ад малой радзімы Зянона Пазьняка. Потым прывітаўся са мною айцец Сяргей і пасля маленькай гутаркі пайшоў гатаваць абед.

Мы з айцом Надсанам пачалі экскурсію. Па-першае, пачалі глядзець кніжкі. Айцец, жартуючы, сказаў, што трошкі назбіралася — тысяч трыццаць тамоў аб беларушчыне.

Усе кнігі альбо напісаныя па-беларуску, альбо пра Беларусь. Пабачыў я сапраўды рэдкія кніжкі: ад беларусазнаўчых працаў царскай эпохі і да сучасных зборнікаў пра беларусістыку, напісаных прафесарамі еўрапейскіх універсітэтаў. Насамрэч гэта бібліятэка — каштоўнае месца для напісання навуковых прац!

Потым мы пайшлі ў залу з экспанатамі. Адразу погляд упаў на рукапіс верша Янкі Купалы “Курган”. Як і я, так і айцец Аляксандр адчувалі захапленне: я быў праўдзіва здзіўлены, а айцец, як я лічу, быў напоўнены радасцю, што такі каштоўны скарб народа не згінуў і не знік, але застаўся сярод беларусаў.

Сярод экспанатаў ляжаў цыліндрычны кавалак пачарнелага срэбра, а. Аляксандр вытлумачыў мне, што гэта такое. Ён сказаў, што гэта — грыўна, грошы, якія выкарыстоўваліся яшчэ перад манетамі ў ВКЛ. Сама па сабе грыўна — рэч сур’ёзная і трошкі важыць, таму трэба было яе дзяліць на меншыя часткі. Дык вось, калі рублі грыўну, атрымоўваліся сярэбраныя грошы — рублі. Вось адкуль гэтая назва.

Яшчэ была адна цікавостка. У 1971 у Аб’яднаным Каралеўстве пачаўся страйк паштавікоў. Беларусы не засталіся ўбаку і стварылі ўласную беларускую пошту. Працаўнікі місіі часова пératварыліся ў паштароў і дастаўлялі лісты ў беларускія дамы. Наша пошта паспела выдаць некалькі марак, аднак калі страйк паштавікоў скончыўся, прыйшло пісьмо ад Яе Высокасці каралевы, якая забрала ў беларусаў права мець сваю пошту.

Шмат чаго цікавага я яшчэ пабачыў. Але цяжка ўсё перадаць, лепш раз убачыць на свае вочы.

Пасля экспазіцыі мяне запрасілі на абед. Застольная гутарка была вельмі прыемнай, бо ў доме была незвычайна родная атмасфера. У святароў шмат працы і планаў, якія яны ўжо пачалі энергічна рэалізоўваць. Наперадзе будаванне прыгожай грэка-каталіцкай святыні.

Я спытаўся ў айца, ці шмат вернікаў збіраецца на літургію. У адказ я пачуў вось такі цудоўны жарт: “Беларусы — народ вельмі зычлівы, яны не турбуюць нікога, нават самога Бога”. Але я потым упэўніўся, што людзі насамрэч прыходзяць. І пра многія іншыя рэчы была гаворка.

Калі я ехаў у музей, думаў, што мяне ад Радзімы аддзяляе цэлае мора, але, апынуўшыся ў доме, я зразумеў, што Holden Road, 37 — гэта таксама Беларусь. Было тут шмат беларускага: зычлівыя людзі, жывая мова, любоў да свайго, а таксама нешта новае: пачуццё свабоды.

Я запытаў у айца Аляксандра, што перадаць тым, хто ў Беларусі, дык ён сказаў мне: “Перадай, што і ў Лондане размаўляюць па-беларуску”.

*Паводле Андрэя Сантоцкага, "Наша Ніва"*

## У ВАРШАВЕ ЎШАНАВАЛІ ПАМЯЦЬ НАРАЧОНАЙ КАЛІНОЎСКАГА

Трэцяга верасня ў Варшаве прайшло традыцыйнае ўшанаванне памяці Марыі Ямант — нарачонай Кастуся Каліноўскага.

У гэты дзень споўнілася 105 гадоў з моманту яе смерці. Студэнты навучальнай праграмы Каліноўскага сабраліся на Павазкоўскіх могілках польскай сталіцы, дзе пахаваная Марыя. Арганізатарам мерапрыемства выступіла “Беларуская Нацыянальная Памяць”.

На магіле Марыі быў прачытаны верш Кастуся Каліноўскага, які ён напісаў з вязніцы да сваёй нарачонай. Прагучаў і верш Уладзіміра Караткевіча “Нявесце Каліноўскага”.

Таксама перад прысутнымі выступіў старшыня БНП Анатоль Міхнавец. Ён расказаў пра гісторыю знаходкі магілы і жыццёвы шлях самой Ямант. Пасля малітвы да магілы былі ўскладзеныя кветкі і запаленыя знічы.

*“Еўрарадыё”*

# "ДАРОГА" ВЯЧАСЛАВА ІГНАЦЕНКІ

Усё коцяцца ды коцяцца кудысьці калёсы з каменнай стэлай, працятай эпічным гераізмам, а неба на захадзе зарасло дзівоснай палявой травой. А там, глянь, над дрымотнай вёскай ляціць улагоджаны анёл, і дзесьці вельмі далёка над векавымі гарамі ў мяккіх аблоках завяла сваю чароўную музыку нябесная скрыпка… Побач вясковая хата ўтульна размясцілася на пакаштаваным кавалку сапраўднага жоўтага сялянскага масла, як калісьці рабіла і мая бабуля, ды ганарліва сядзіць на ім, нібы спелая вішня на святочным торце. А як спакойна пасвяцца коні па млечным васільковым полі, а за плячыма нечы па-чартоўску выразны погляд пранізвае цябе, нібы кажа: "Вось дык сустрэча!"... Сапраўды тут у Малдове людзі кажуць: "Ваш беларускі мастак Вячаслаў Ігнаценка заўсёды поўны творчых ідэяў". Не паспелі погляду забыцца выдатныя геаметрычныя каляровыя кампазіцыі і графіка на персанальнай выставе майстра "Калейдаскоп", якая ў ліпені праходзіла ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску, і вось, калі ласка, новы гучны вернісаж "Дарога" — і ўжо ў Кішынёве.

Гэтым разам гасцінным домам для амаль 30 прац мастака выступіла Бюро міжэтнічных адносін, якое размяшчаецца ў цэнтры Кішынёва. Выстава доўга, амаль увесь верасень, будзе радаваць наведнікаў дзівоснымі фантазійнымі поглядамі мастака.

І нядзіўна, што менавіта нашаму земляку Вячаславу Міхайлавічу Ігнаценку Бюро міжэтнічных адносін, якое дзейнічае пры Урадзе Малдовы, прапанавала такую ганаровую магчымасць арганізаваць і правесці персанальную выставу, прысвечаную Дню Незалежнасці Рэспублікі Малдова. Талент і досвед у мастака велізарны, і хто як не ён зможа найлепшым чынам шматбакова прадставіць і сваю родную Беларусь, і другую Радзіму — Малдову! Вячаслаў Міхайлавіч — шматгадовы сябра Саюза мастакоў Малдовы, сябра Міжнароднай асацыяцыі мастакоў, пастаянны ўдзельнік міжнародных пленэраў. Работы мастака знаходзяцца ў калекцыях многіх музеяў Беларусі, Малдовы і Украіны, а таксама ў прыватных беларускіх і замежных калекцыях.



Вячаслаў Ігнаценка працуе ў розных відах і жанрах выяўленчага мастацтва. Палітра яго мастацкіх твораў вельмі разнастайная — гэта жывапіс і графіка, геаметрычныя каляровыя кампазіцыі, абстракцыя, малюнкі, пейзажы, нацюрморты, партрэты, а таксама бытавы, батальны і анімалістычны жанры. На выставе "Дарога" былі прадстаўленыя вельмі цікавыя абстрактныя работы майстра і кранальныя пейзажныя творы ў класічным стылі, зробленыя ў розны творчы перыяд.

Вернісаж мастака сабраў як ніколі вялікую аўдыторыю. Былі прадстаўнікі розных прафесій, узростаў і сацыяльных слаёў. Тут можна было сустрэць дэлегатаў розных дыпламатычных місій, прадстаўнікоў буйнога бізнесу, творчую эліту, сябраў розных этнакультурных дыяспар Малдовы, і, вядома ж, нашых землякоў. І кожнаму было на што паглядзець і чаму здзівіцца. Вось сапраўды, сіла мастацтва аб'ядноўвае! Такія выдатныя працы як "Раніца", "Сустрэча", "Водгук", "Дарога", "З дзяцінства", "Млечны шлях", "Час", "Успаміны" і многія іншыя надоўга затрымлівалі гледачоў каля сябе, прымушаючы ўзірацца ў кожную непаўторную дробную дэталь, скрупулёзна намаляваную мастаком.

З урачыстым словам на вернісажы выступілі генеральны дырэктар Бюро міжэтнічных адносін пры Урадзе Малдлвы спадарыня Белякова Алена Міхайлаўна, Пасол Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Малдова спадар



Асіпенка Вячаслаў Аляксандравіч, старшыня беларускай грамады ў РМ спадар Статкевіч Юрый Антонавіч. Выступоўцы не скупіліся на заслужаныя словы пахвалы, падкрэслівалі значнасць унёску сапраўднага мастацтва ва ўмацаванне двухбаковых адносін паміж Рэспублікай Беларусь і Рэспублікай Малдова, што, безумоўна, эмацыйна кранула майстра.

Нечаканым фіналам вернісажу стаў прыемны і шчодры сюрпрыз у гонар Дня Незалежнасці Рэспублікі Малдова — выдатная карціна Вячаслава Ігнаценкі, паднесеная ў дар Бюро міжэтнічных адносін спадарыняй Ганнай Бабінай генеральным дырэктарам дылерскага прадстаўніцтва завода "Керамін" у Малдове.

Варта адзначыць, што назва выставы "Дарога" для майстра мае сапраўды вельмі сімвалічнае значэнне, такі своеасаблівы зборны вобраз. Рэч у тым, што наступны год для мастака — юбілейны, і не толькі ў сэнсе ўзросту, але і ў сэнсе творчага шляху. Так што, хоць Вячаслаў Міхайлавіч і не любіць нешта прымяркоўваць да юбілеяў, але такую доўгую і шырокую дарогу сапраўднага майстра сваёй справы, такі творчы шлях, поўны невычэрпнага таленту, любові да роднай зямлі, бясконцых творчых ідэяў, сіл, ведаў, вопыту, магчымасцяў і паспяховых рэалізацый будзе ніяк не магчыма абыйсці бокам!

*Ганна Мазур*

*Злева: Карціна "Дарога" Вячаслава Ігнаценкі.*
*Уверсе: Вячаслаў Ігнаценка*

## У БЕЛАРУСКІМ ДОМЕ Ў ВАРШАВЕ ПАКАЗАЛІ "ДЗЯДЫ"



Паказ пастаноўкі "Дзяды" Адама Міцкевіча адбыўся ў Беларускім доме ў Варшаве. Прысутныя змаглі паглядзець эксклюзіўнае відэа ад "Тэатра Ч", а таксама асабіста задаць пытанні стваральніку спектакля. У мерапрыемстве ўзялі ўдзел паэтка Валярына Кустава і тэатральны прадусар ды дырэктар "Тэатра Ч" Андрэй Чарных.

Паводле словаў Андрэя Чарных, пры стварэнні спектакля было шмат цяжкасцяў, містыкі, што дазваляе больш глыбока прадставіць яго гледачам: "Чытаючы паэму, не кожны здольны зразумець, пра што яна, таму самым цяжкім было працаваць з матэрыялам. Пошук рашэнняў, што з 4-х частак "Дзядоў" трэба вынесці на сцэну, што самае галоўнае. Вельмі шмат знакаў суправаджала ўсю нашую пастаноўку".

Спектакль ужо быў паказаны ў Беларусі, ва Украіне і Літве. Таксама плануецца паказ у розных месцах Беларусі і па-за яе межамі, у тым ліку ў Польшчы і Расіі.

*"Беларускае Радыё Рацыя"*

## ЗМЕНЫ Ў ЗВЯЗЕ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ Ў ПОЛЬШЧЫ

Перш за ўсё, афіцыйна змянілася назва: цяпер яна гучыць так: "Шчыты – звяз у карысць прамоцыі і адукацыі беларускай культуры". Гэта тая ж самая арганізацыя, але змены палягалі на абмежаваннях, якія заключаліся ў моладзевым яе характары, кажа старшыня звязу Ігар Лукашук: "Калі мы надалей збіраемся займацца рознымі ініцыятывамі, то трэба неяк пашырыць, адкрыць арганізацыю. Паколькі назва "Звяз беларускай моладзі" паказвае, што арганізацыя моладзевая, то вырашылі адкрыць яе для старэйшых людзей, для былых "звязаўцаў", якім ужо каля 40 гадоў, змяніўшы назву.

Звяз з'яўляецца арганізатарам фестывалю "Бардаўская восень", які сёлета пройдзе дваццаты раз. Але гэта перш за ўсё цяпер Цэнтр адукацыі і прамоцыі беларускай культуры ў Шчытах-Дзенцялове".

*Паводле "Беларускага Радыё Рацыя"*

## У ВІЛЬНІ АБВЯСЦІЛІ ПРА СТВАРЭННЕ АРГАНІЗАЦЫІ ПАСПЯХОВЫХ БЕЛАРУСАЎ

У новае аб'яднанне GBL увайшлі тыя, што зрабілі ўдалую кар'еру за мяжой. А таксама бізнесмены, творцы і кіраванцы з самой Беларусі.

Наватарскае для Беларусі аб'яднанне "Глабальныя беларускія лідары" (GBL) было створана ў апошні дзень лета ў Вільні. Сюды прыехалі не толькі нашыя землякі, якія прабіліся за мяжой, але і замежныя журналісты, і навукоўцы, якія цікавяцца Беларуссю. А таксама прадстаўнікі непасрэдна з нашай краіны.

"Гэта арганізацыя створана для прафесіяналаў, яна не палітычная. Пры дапамозе GBL нашы людзі змогуць пазнаёміцца і дапамагчы адно аднаму ў развіцці, — распавядае ўладальнік кансалтынгавай кампаніі ў Нью-Ёрку і адзін з каардынатараў GBL Мікола Цімашэнка. — Раней такой структуры, якая б яднала маладых паспяховых беларусаў па ўсім свеце, не было. Чым болей сярод нас будзе самадастатковых людзей, якія цвёрда стаяць на нагах, тым лепш будзе для Беларусі".

"А хто з вядомых людзей прыбыў на абвяшчэнне GBL?" — цікавімся ў Таццяны Кулакевіч, адной з заснавальніц новай арганізацыі (з'яўляецца кандыдаткай у прафесары ўніверсітэта Ратгерс у Нью-Джэрсі).

Таццяна Кулакевіч: "Напрыклад, з Вашынгтона змагла прыляцець дачка Вітаўта Кіпеля, вядомага дзеяча беларускай дыяспары. У ЗША Алеся Кіпель уваходзіць у дваццатку найлепшых адвакатаў сваёй галіны, займаецца справамі буйных карпарацый. Прыехаў вядомы канадскі прафесар Дэвід Марплз, які даследуе Беларусь. Таксама былі сусветна вядомыя спартоўцы, чалавек, які займаецца вытворчасцю прыладаў у радыялогіі, музыкі, кіраўнікі, бізнесмены і іншыя людзі, якім уласцівы лідарскія якасці".

У час, калі з Беларусі працягваецца адток мазгоў, GBL, наадварот, прапаноўвае прыцягнуць у краіну добрых кадраў з замежжа, падцягнуць да новага ўзроўню маладых і перспектыўных. Пытанне ў тым, ці падтрымае гэту ініцыятыву афіцыйны Мінск і ці ўдасца хутаранам-беларусам стварыць па-сапраўднаму эфектыўную структуру ўзаемадапамогі.

*Паводле "Еўрарадыё"*

## ДЗЕНЬ АДНАЎЛЕННЯ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ АДСВЯТКАВАЛІ БЕЛАРУСЫ АМЕРЫКІ

25 жніўня 2013 года ў грамадска-царкоўнай зале пры Саборы Св. Кірылы Тураўскага Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы адбылося ўрачыстае святкаванне 22-й гадавіны Аднаўлення Незалежнасці Беларусі.

Урачыстасць пачалася са славутай "Пагоні" Максіма Багдановіча, якую прысутныя слухалі стоячы. Імпрэзу адкрыла старшыня Бруклінскага аддзела БАЗА Таццяна Красоўская. Яна зачытала віншавальны ліст Старшыні Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі — БНФ Зянона Пазьняка. У сваім слове Т. Красоўская напомніла, як адбываліся падзеі ў 1990—91 гг., якія прывялі да практычнай незалежнасці нашай краіны.

Пра гістарычны шлях змагання беларусаў многіх пакаленняў за волю і незалежнасць Беларусі цікава і змястоўна распавёў Андрэй Асадчы.

З зацікаўленнем прысутныя слухалі літаратурную кампазіцыю па кнізе Зянона "Вялікае Княства" ў выкананні Галіны Пазьняк.

Усе выступы суправаджаліся відэазапісамі беларускіх спеваў розных гадоў у выкананні знакамітых беларускіх спевакоў.

Напрыканцы ўрачыстай часткі імпрэзы прысутныя паглядзелі відэакліп беларускіх мітынгаў у Мінску на фоне гучання беларускіх гімнаў.

*Інфармацыйны Цэнтр БАЗА*

## РЫХТУЕЦЦА ДА ВЫДАННЯ КНІГА ПРА САКРАТА ЯНОВІЧА

Інстытут польскай філалогіі і Кафедра беларускай культуры Беластоцкага ўніверсітэта рыхтуюць выданне, прысвечанае асобе Сакрата Яновіча. Зборнік будзе складацца з трох частак. Да яго стварэння запрошаныя асобы, якія супрацоўнічалі з Яновічам або займаліся даследаваннем ягонай творчасці.

Пра ідэю выдання расказвае доктар Гражына Харытанюк-Міхей з універсітэта ў Беластоку: "Вырашылі, што мы павінны стварыць кнігу, прысвечаную Сакрату Яновічу, каб паказаць ягоную дзейнасць як літаратара, як грамадскага дзеяча".

Стваральнікі кнігі супрацоўнічаюць з фондам Villa Sokrates, які і трымае ганаровы патранат над выданнем. Плануецца, што зборнік пабачыць свет у наступным годзе.

*"Беларускае Радыё Рацыя"*

## АЙЦЕЦ СЯРГЕЙ СТАСЕВІЧ ПРА ХРАМ КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА

Царква (ці хутчэй капліца – з-за памераў) святога Кірылы Тураўскага задуманая як сэрца нашага Рэлігійна-культурнага цэнтра. Ідэя збудаваць яе з'явілася ў мяне з самага пачатку працы тут: нам 60 гадоў, а храма няма. Адразу ж я сутыкнуўся з неразуменнем: што будаваць, дзе і як? І галоўнае – для каго? Наш архітэктар, Цзыўай Рафаэль Со, прыйшоў да нас даведацца пра Беларусь; скончылася гэта тым, што ён прыняў хрост і цяпер умоўна ёсць беларусам паводле духу. Такім чынам, гэты праект нарадзіўся і рэалізоўваецца ўнутры самой нашай малой супольнасці, з разлікам пакуль выключна на ўласныя сілы і сродкі Беларускай каталіцкай місіі. Але спадзяемся і на ахвяраванні.

Храм будзе ў памяць пра Чарнобыль – нашую Хірасіму. Паўсюль у свеце стаяць мемарыялы Хірасіме, нават у Мінску. Мемарыял Чарнобылю ў Брытаніі будзе дарэчы: дагэтуль сюды штогод прыязджаюць на аздараўленне дзеці з Беларусі, тут ёсць чарнобыльскія фундацыі. У нашым храме будуць узносіцца малітвы за супакой спачылых ахвяраў і здароўе жывых, то бок нас з вамі.

Мала хто на Беларусі сёння дбае пра драўлянае дойлідства. Яно няўмольна знікае ў нябыт разам з беларускай вёскай. Наша царква будзе працягам старадаўняй традыцыі ў XXI стагоддзе. Працяг на чужыне – там, дзе сёння воляй лёсу апынуліся беларусы, продкі якіх маліліся у такіх цэрквах. Быць можа, царква, таксама як і абноўленыя музей і бібліятэка Скарыны, стануць турыстычнай атракцыяй Лондана, найперш – для нашых суродзічаў.

*belarusians.co.uk*



*На здымку: макет храма*

## БЕЛАРУСЫ ВАРШАВЫ ЎШАНАВАЛІ ПАМЯЦЬ БІТВЫ ПАД ОРШАЙ

8 верасня ў польскай сталіцы прайшло шэсце да Дня беларускай вайсковай славы. Мерапрыемства было арганізавана "Беларускай Нацыянальнай Памяццю".



Каля 20 беларусаў прайшлі ад цэнтру Варшавы да памятнай шыльды беларускаму вайсковаму дзеячу Станіславу Булак-Балаховічу. Шэсце доўжылася каля гадзіны. На заканчэнне перад прысутнымі выступіў кіраўнік БНП Анатоль Міхнавец, які заклікаў не забываць беларускіх нацыянальных герояў.

Нагадаем, 8 верасня 1514 года адбылася Аршанская бітва, у якой войска ВКЛ перамагло амаль утрая большую па колькасці армію Маскоўскай дзяржавы.

З пачатку 1990-х гадоў мінулага стагоддзя 8 верасня ў Беларусі неафіцыйна адзначаецца як Дзень беларускай вайсковай славы.

*"Еўрарадыё"*

## БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА КАСТРЫЧНІК 2013 ГОДА

1 кастрычніка — 10 гадоў таму памёр Васіль Кендыш (1908—2003), грамадскі дзеяч, настаўнік, праваслаўны святар, дзеяч эміграцыі ў ЗША. Пахаваны на могільніку ў Спрынгфілдзе (Масачусетс, ЗША).

6 кастрычніка — 50 гадоў таму ў Нью-Ёрку памёр Віктар Чабатарэвіч (1906—1963), палітычны і вайсковы дзеяч, настаўнік, дзеяч эміграцыі ў ЗША. Нарадзіўся ў мяст. Новы Свержань, цяпер Стаўбцоўскі р-н.

14 кастрычніка — 110 гадоў таму нарадзіўся Лявон Рыдлеўскі (маёнт. Ульянавічы, цяпер Талачынскі р-н; 1903—1953), грамадска-палітычны дзеяч, удзельнік Слуцкага паўстання, дзеяч эміграцыі ў Францыі.

15 кастрычніка — 180 гадоў таму ў Фларэнцыі памёр Міхал Клеафас Агінскі (1765—1833), дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай, кампазітар, удзельнік паўстання 1794 г.

19 кастрычніка — 80 гадоў таму нарадзілася Вольга Бурнос (дзяв. Пашкевіч; в. Вядо, цяпер Івацэвіцкі р-н; 1933—2003), дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі.

19 кастрычніка — 25 гадоў таму, у 1988-м, у Мінску ўтворанае рэспубліканскае грамадскае гісторыка-асветнае таварыства памяці ахвяр сталінізму "Мартыралог Беларусі" і аргкамітэт Беларускага Народнага Фронту "Адраджэнне".

22 кастрычніка — 10 гадоў таму памёр Міхась Раецкі (1927—2003), журналіст, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі. Пахаваны на беларускай частцы могілак Караката ў Перце (Аўстралія).

23 кастрычніка — 85 гадоў таму нарадзіўся Лаўрэн Клыбік (в. Хадзявічы, цяпер Слонімскі р-н; 1928—2005), медык, навуковец-фармацэўт, дзеяч эміграцыі ў Вялікабрытаніі і Бельгіі.

24 кастрычніка — 60 гадоў таму ў лонданскім шпіталі памёр Лявон Рыдлеўскі (1903—1953), грамадска-палітычны дзеяч, удзельнік Слуцкага паўстання, дзеяч эміграцыі ў Францыі. Пахаваны ў Лондане.

28 кастрычніка — 90 гадоў таму, у 1923-м, у Вільні выйшаў першы нумар газеты "Змаганне" (выдавалася да снежня 1924 г.).

29 кастрычніка — 20 гадоў таму ў Клівлендзе памёр Сяргей Карніловіч (1929—1993), грамадскі і рэлігійны дзеяч, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

30 кастрычніка — 25 гадоў таму, у 1988-м, у Мінску і Курапатах прайшоў мітынг-рэквіем "Дзяды", які быў жорстка разагнаны. Дзень памяці ўсіх ахвяраў генацыду.

**Беларусы ў свеце**
№9(137), верасень 2013

Інфармацыйны бюлетэнь МГА "ЗБС "Бацькаўшчына". Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.
Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – А. Башарымава
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906,
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb@tut.by

тэл./факс (+375 17) 200-70-27